# Кобрынскі Веснік

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Газета выдаецца з верасня 1939 года

№ 2 (7592)

Цана 1000 руб.

СУБОТА 3 студзеня 1997 г.


7 студзеня - Нараджэнне Хрыстова (праваслаўныя Каляды) першы дзень.

Віншуем са святам!

## 5 студзеня - Дзень работнікаў сацыяльнай абароны

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 мая 1997 года N 305 «Аб устанаўленні свята - Дня работніка сацыяльнай абароны» 5 студзеня 1998 года ў нашай краіне ўпершыню будзе адзначацца прафесіянальнае свята работнікаў сістэмы сацыяльнай абароны.

З гісторыі развіцця гэтай сферы дзейнасці дзяржаўных органаў вядома, што 5 студзеня 1918 года пастановай Часовага рабоча-сялянскага кіраўніцтва Беларусі былі утвораны Народны Камісарыят сацыяльнага забеспячэння, на які ўскладвалася работа па арганізацыі і ажыццяўленню сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. З таго часу і пачала дзейнічаць у рэспубліцы дзяржаўная сістэма сацыяльнай абароны.

У перыяд эканамічных пераўтварэнняў роля і важнасць гэтай службы шматразова ўзрастаюць. Колькасць тых, хто па волі лёсу не можа працістаяць нягодам жыцця, павялічваецца, і задача працаўнікоў сістэмы сацыяльнай абароны заключаецца ў тым, каб дайсці да кожнага, дапамагаць пераадолець цяжкасці, забяспечыць дастойнае чалавека жыццё.

Штодзённа і нястомна служыць гэтым высакародным мэтам досыць складана. У першую чаргу, па аб'ектыўных прычынах - на ўсё ўзрастаючую колькасць пенсіянераў, інвалідаў, састарэлых і нямоглых усё менш прыпадае тых, хто заняты працай і забяспечвае адлічэнні ў пенсійныя і страхавыя фонды. Тым не менш наша дзяржава знаходзіць сродкі для таго, каб пастаянна падтрымліваць жыццяздольнасць сістэмы, забяспечыць неабходным усіх маючых патрэбу.

Любая справа чалавекам ставіцца. Толькі апантаныя, самаадданыя, добрасумленныя людзі могуць данесці ў кожны дом тую кроплю матэрыяльнага дабрабыту, якую гарантуе дзяржава, памножыўшы яе на цеплыню свайго сэрца, часцінку душы і міласэрнасці. Штодзень 86 сацыяльных работнікаў раёна і 18 - горада спяшаюцца абслужыць на даму адпаведна 478 самых абяздоленых і адзінокіх у вёсках і 150 - у горадзе. Да таго ж, на папячэнні работнікаў сістэмы сацыяльнай абароны 14617 пенсіянераў раёна і 9585 - горада, 220 інвалідаў у псіханеўралагічным інтэрнаце і каля ста штомесяц адпачываючых у пансіянаце ветэранаў вайны і працы.

Вялікі дзякуй работнікам аддзела сацыяльнай абароны гаррайвыканкомаў, аддзяленняў сацыяльнай дапамогі на даму, фондаў сацыяльнай абароны, раённага камітэта таварыства «Чырвонага крыжа» і іншых грамадскіх аб'яднанняў, усім тым, хто на канкрэтных участках работы рэалізуе праз ласныя адрасныя дзеянні дзяржаўную палітыку па сацыяльнай абароне насельніцтва.

Шчыра віншуем вас з першым прафесіянальным святам, жадаем творчых здабыткаў у вашай высакароднай дзейнасці і ўсіх зямных даброт!

*Гарадскі выканаўчы камітэт і гарадскі Савет дэпутатаў.*
*Раённы выканаўчы камітэт і раённы Савет дэпутатаў.*

# Сесія раённага Савета

29 снежня 1997 года адбылася дзесятая сесія раённага Савета дэпутатаў XXII склікання. Акрамя дэпутатаў, удзел у яе рабоце прымалі старшыні сельскіх Саветаў, кіраўнікі, галоўныя заатэхнікі і галоўныя ветурачы калгасаў, саўгасаў, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый раёна, адказныя работнікі райвыканкома.

У адпаведнасці з парадкам дня ўдзельнікі сесіі наведалі шэраг аб'ектаў жывёлагадоўлі ў гаспадарках раёна, азнаёміліся на месцы з арганізацыяй зімова-стойлавага ўтрымання жывёлы, умовамі, у якіх працуюць жывёлаводы. Гэта надало асаблівую вастрыню пры абмеркаванні асноўнага пытання, вынесенага на разгляд сесіі: *«Аб стане і мерах па далейшаму нарошчванню пагалоўя жывёлы, павышэнню яго прадукцыйнасці і стварэнню неабходных умоў працы жывёлаводаў раёна».*

З дакладам па гэтым пытанні выступіў першы намеснік старшыні райвыканкома *М. В. Токар.*

У спрэчках па дакладу слова ўзялі дырэктар ААТ «Кобрынская сельгастэхніка» *І. П. Мароз,* галоўны заатэхнік калгаса імя Леніна *В. М. Ромаш,* старшыня калгаса «Новае жыццё» *Я. У. Старжынскі,* галоўны ветурач калгаса «Звязда» *Л. Р. Патоня,* галоўны інжынер калгаса імя Дзімітрова *Я. Я. Дацук,* загадчыца аграхімлабараторыі *Н. В. Касцюшэўская,* старшыня райкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу *М. М. Кавалевіч,* аграном па кармах саўгаса «Днепра-Бугскі» *М. П. Мурза.*

Са справаздачным дакладам аб рабоце пастаяннай камісіі раённага Савета па пытаннях сацыяльна-культурнай сферы і выкананню рашэння райсавета дэпутатаў ад 20.05.1994 г. N 39 «Аб рабоце раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання і фізкультурна-спартыўных арганізацый па ахове і ўмацаванню здароўя насельніцтва раёна» выступіў старшыня пастаяннай камісіі, начальнік аддзела культуры райвыканкома *С. І. Рагачук.*

Сесія разгледзела таксама пытанні аб перадачы раённай дзяржаўнай насеннай інспекцыі з камунальнай уласнасці раёна ў рэспубліканскую, аб прысваенні класа служачага дзяржаўнага апарата старшыні раённага Савета дэпутатаў, абмеркавала пытанні бюджэту і спісання запазычанасці па плацяжах у бюджэт.

Па ўсіх абмеркаваных пытаннях сесія прыняла адпаведныя рашэнні.

У рабоце сесіі прынялі ўдзел нам. старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню аблвыканкома *І. М. Дронь* і старшыня райвыканкома *С. Д. Ашмянцаў,* якія выступілі перад удзельнікамі сесіі.



**Старшыня Кобрынскага гарадскога Савета дэпутатаў Мікалай Васільевіч КОЖУХ**

Як паведамлялася ўжо, 19 снежня 1997 года на дзевятай сесіі гарадскога Савета дэпутатаў старшынёй гарадскога Савета дэпутатаў выбраны Мікалай Васільевіч Кожух.

М. В. Кожух нарадзіўся ў 1950 годзе ў в. Пескі Бярозаўскага раёна. Беларус. Мае вышэйшую адукацыю, па спецыяльнасці - інжынер-гідратэхнік. У г. Кобрыне працуе з 1981 года - начальнік ПМК-44 Галоўпалессевадбуда; з 1989 г. - кіраўнік будтрэста N 33; з 1995 - генеральны дырэктар ААТ «Будтрэст N 33». М. В. Кожух неаднаразова выбіраўся дэпутатам гарадскога Савета.

Жанаты. Мае двух ужо дарослых сыноў.

## З УЗНАГАРОДАЙ!

**За шматгадовую сумленную працу, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці і ў сувязі з прафесіянальным святам - Днём работніка сацыяльнай абароны гарвыканкомам узнагароджаны Граматай гарадскога выканаўчага камітэта:**

**Навічук Лідзію Іванаўну - спецыяліста аддзела сацыяльнай абароны;**

**Свірыдзюка Мікалая Тарасавіча - намесніка дырэктара Кобрынскага псіханеўралагічнага інтэрната.**

**Віншуем з узнагародай!**

## У МАЛАДЗЁЖНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

# На завяршэнні года - добрыя справы

На сённяшні дзень у гарадской арганізацыі БПСМ налічваецца больш як 750 маладых людзей, аб'яднаных у 43 пярвічныя арганізацыі.

Хто з кіраўнікоў пярвічных арганізацый працаваў лепш у перыяд з верасня па снежань мінулага года? Гэта стала вядома на сходзе сакратароў, які адбыўся напярэдадні Новага года ў раённым Доме культуры. Самымі актыўнымі ў рабоце з моладдзю былі прызнаны 14 чалавек. З іх варта адзначыць сакратароў пярвічных арганізацый ПТФ «Ручайка» Юрыя Кабыляк, інструментальнага завода «Ситомо» Алега Кавальчука, СШ N 4 Мікалая Шагойку, СШ N 7 Алену Болдык, СШ N 1 Барыса Мікіцюка.

А перад гэтым прадстаўнікі гарадской арганізацыі БПСМ на чале з першым сакратаром Андрэем Міхалюком наведалі школу-інтэрнат для слабачуючых дзяцей і ўручылі навагоднія падарункі выхаванцам-сіротам.

Добры навагодні падарунак атрымалі і школьнікі горада, якія займаюцца ў баскетбольным клубе. За сродкі БПСМ для клуба набыты форма і спартыўны інвентар.

*Г. КАВАЛЕНКА, Н. ФІЛІПУК, супрацоўнікі гарадской арганізацыі БПСМ.*



# Дбаюць аб здароўі

У наш нялёгкі час некаторыя з людзей не асабліва дбаюць аб уласным здароўі. Але, як бы ні было цяжка сёння пражыць, аб такой важнай абставіне ніколі не патрэбна забываць.

У снежні на гэтую тэму ў горадзе праходзіла навукова-практычная канферэнцыя «Натуральнае самааздараўленне чалавека». У ёй прымалі ўдзел прадстаўнікі таварыстваў здаровага ладу жыцця не толькі з Кобрына, але і з суседніх раённых цэнтраў. Перад удзельнікамі канферэнцыі выступіў доктар медыцынскіх навук І. С. Гулько, іншыя ўрачы і прадстаўнікі грамадскасці. Яны падкрэслівалі вялікую ролю чалавека ў працэсе самааздараўлення, гаварылі аб арганізацыі работы па ахове здароўя людзей.

На канферэнцыі адбылася прэзентацыя паэтычных твораў нашай зямлячкі Г. М. Сахарук.

*А. МАРЧУК.*

## 5 студзеня - Дзень работнікаў сацыяльнай абароны насельніцтва

# Ёсць такая служба...

У Марыі Георгіеўны Амяльчук - гаспадыні аднаго з двух хутароў, што засталіся ад в. Паўлава, дзень, па яе словах, быў незвычайны. З горада прыехала праведаць і прыбраць хату перад Калядамі і Новым годам яе сяброўка з дзяцінства і кума Ганна Міксімаўна Дубок. А тут яшчэ і мы завіталі. Марыя Георгіеўна ляжала на канапе. Тут жа, паблізу, былі яе даўнія спадарожніцы - дзве клюкі, без якіх яна не можа рухацца. А тут яшчэ і іншыя хваробы прычапіліся. Праўда, справы ўжо пайшлі на папраўку.

- А вясной, каб не Тацяна, памерла б, - сказала яна, паглядваючы на нас добрымі ўсмешлівымі вачыма. - Выйшла на вуліцу, на сонейка. І раптам так дрэнна стала. Думаю, тут мне і канец. Хто і калі мяне на гэтым хутары знойдзе? Але на маё шчасце як раз Таня пад'ехала. Неяк уцягнула мяне ў хату, сваімі лекамі адкачала, а потым паімчалася выклікаць медработнікаў. Вечарам зноў прыехала паглядзець, як сябе адчуваю.

Марыя Георгіеўна крыху памаўчала і дадала:

- Я часам думаю, як жыла б без дапамогі сацработнікаў. Хто вось так, як Таня ці Сяргей, неслі б на хутар праз гурбы снегу хлеб, іншыя прадукты, лекі, дапамагалі па дому? Прапала б. І не толькі я. Напішыце, калі ласка, што мы так удзячны ім і тым, хто стварыў гэтую службу.

Пра Сяргея пачула і ў вёсцы Рачкі, у доме гаваркой Ульяны Сямёнаўны Брэер.

- Сяргей нам - як бацька. У мяне ў навальніцу зваліла бярозу. Голлем пабіла шыфер на хляве. А пад ім брыкет на зіму. Бяда і толькі. Сяргей выратаваў. Сцягнуў бярозу, з другой, што побач стаяла, галіны абпілаваў. Пазней прывезлі з Таняй шыфер, удвох і накрылі.

Таня і Сяргей - гэта Таццяна Мікалаеўна і Сяргей Мікалаевіч Луніны, пад апекай якіх знаходзяцца адзінокія састарэлыя і інваліды ў вёсках Сялец, Рачкі, Паўлава. Іх службовыя абавязкі: дастаўка прадуктаў і прамысловых тавараў, медыкаментаў, здача рэчаў у пральні, дапамога ва ўборцы кватэр, апрацоўцы прысядзібных участкаў, выпіска і дастаўка паліва, дастаўка паліва і вады ў дом. Але наўрад ці паважалі б і дзякавалі б старыя і трымала начальства людзей, якія б у сваёй рабоце абмяжоўваліся толькі рамкамі распісаных абавязкаў. Рэаліі нашага жыцця, сумленне людзей, што бяруцца за гэтую справу, намнога пашыраюць кола работ, якія яны выконваюць для састарэлых і хворых.

Вось і ў выпадку з хлявом Ульяны Сямёнаўны Брэер потым высветліліся некаторыя дадатковыя абставіны. Для рамонту патрэбны быў шыфер невялікага памеру, старога выпуску. Луніны даведаліся, што іменна такі быў на Закросніцкім ФАПе, дзе як раз ішла замена яго. Праз сельсавет дамовіліся, што дадуць неабходную для рамонту хлява колькасць, самі адабралі лепшыя лісты, завезлі ў Рачкі і перакрылі.

- Такая служба, - могуць сказаць некаторыя чытачы. А мне хочаца дабавіць: такія людзі, хоць Сяргея Мікалаевіча я не ўбачыла: захварэў, быў на лячэнні ў бальніцы, аб чым шчыра бедавалі ўсе бабулькі. Але яны без апекі не засталіся, бо ў мужа і жонкі і справа адна, і адносіны да яе аднолькавыя. І ўсе гэтыя тыдні ў вызначаныя дні ў аддаленыя Рачкі і на Паўлаўскія хутары прыязджаюць Таццяна Мікалаеўна ці старэйшы сын Луніных шаснаццацігадовы Дзмітрый. Ад бацькоў ён, ды і малодшы, Саша, перанялі павагу да людзей, спачуванне да іх старасці, хвароб. І ахвотна дапамагаюць. Напрыклад, выпісала Таццяна брыкет для Фядоры Макараўны Кірылюк. Насілі яго ў хлеў разам з маці Дзіма і Саша. І іншыя работы выконваць не адмаўляюцца.

Вышэй я ўпамянула слова «прыязджае». Дык вось, мне вельмі хочацца ўдакладніць пра від транспарту, якім дабіраюцца на хутары і Рачкі Луніны. Гэта вазок і конь, што выдзеліў калгас. Два дні на тыдзень Луніны маюць права на карыстанне гэтай «тэхнікай», якая і выручае іх у бездарожжа.

Луніны працуюць сацыяльнымі работнікамі з 1989 года. Грошы, што атрымліваюць за сваю работу, больш чым сціплыя. Невыпадкова Марыя Георгіеўна Амяльчук, выказваючы глыбокую ўдзячнасць сацыяльным работнікам, звярнула на гэты факт увагу загадчыцы аддзялення сацыяльнай дапамогі Святланы Мікалаеўны Ханцэвіч.

- За такую дапамогу жыхарам хутароў, аддаленых вёсак, за ўвагу, з якой адносяцца да нас, трэба плаціць больш.

Напэўна, да гэтых слоў далучацца і іншыя людзі, над якімі апякуюць і якім дапамагаюць сацыяльныя работнікі.

Расказваючы аб фактах з работы Луніных, упэўнена, што падобныя, магчыма, толькі ў іншых канкрэтных праяўленнях, ёсць у выключнай большасці, калі не ва ўсіх сацыяльных работнікаў. Служба гэта такая, што інакш нельга.

*М. ХІЛЬЧУК.*

*Больш як 9500 чалавек абслугоўвае невялічкі калектыў гарадскога аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва. З іх 8800 - пенсіянеры па ўзросту.*

*Кожны з гэтых усіх людзей хто раз, а хто і некалькі разоў звяртаецца да супрацоўнікаў аддзела. І не толькі па пытаннях, што датычаць налічэння, афармлення пенсій, выплаты дапамог, іх пераразлікаў, але і па шматлікіх іншых праблемах, з якімі звязана жыццё пажылых і састарэлых людзей. У дзень супрацоўнікам аддзела прыходзіцца, гаворачы афіцыйнай мовай, абслугоўваць 15-20 чалавек, часам і 40. А гаворачы проста, уважліва выслухаць, цярпліва даць неабходную кансультацыю, калі справа датычыцца дакументаў, - старанна праверыць іх, высветліць усе моманты, што і робяць кожны дзень работнікі аддзела.*

*Больш як 15 гадоў займаюцца гэтай справай інспектар па выплаце пенсій Лідзія Іванаўна Навічук і старшы інспектар Галіна Мікалаеўна Заруба, якіх вы бачыце на здымку. І робяць яе выдатна, аб чым сведчаць удзячнасць людзей, якіх яны абслугоўваюць, высокая ацэнка іх працы кіраўніцтвам.*

*Фота А. ШУГАЯ.*



*❑ПРАБЛЕМЫ, ЯКІЯ НАС ХВАЛЮЮЦЬ*

## ВЫРАШАНА СТАНОЎЧА

Жыхар Кобрына В. Ф. Андрасюк звярнуўся да намесніка старшыні камісіі па рэгіянальнай палітыцы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. І. Садоўскай з просьбай дапамагчы наладзіць падвоз і адвоз пасажыраў цягнікоў Мінскага накірунку з чыгуначнай станцыі Тэўлі аўтобусамі, без чаго ў насельніцтва Кобрыншчыны ўзнікаюць праблемы з даездам на станцыю і дамоў.

Як паведаміў дырэктар аўтапарка N 16 А. А. Кавалевіч, аўтапарк здолеў вырашыць гэтую праблему шляхам адкрыцця асобнага аўтобуснага маршрута Кобрын - ст. Тэўлі. Работа аўтобусаў на гэтым маршруце пачалася з 31 снежня 1997 года і будзе ажыццяўляцца ў перадвыхадныя (перадсвяточныя) і суботнія дні з адпраўленнем аўтобусаў з аўтавакзала Кобрын рэйсамі ў 17.50 і 21.00 гадзін і адпраўленнем са станцыі Тэўлі ў 18.50 і 21.56 пасля прыбыцця цягнікоў з Мінска.

Па нядзельных (святочных) днях з аўтавакзала Кобрын будзе адпраўляцца аўтобус гэтага маршруту ў 11.30 з прыбыццём на станцыю Тэўлі ў 12.20, да цягніка з адпраўленнем на Мінск у 13.00 гадзін.

Па серадах, пятніцах, суботах, нядзелях дзейнічае аўтобусны маршрут Кобрын - Заверша, які праходзіць праз ст. Тэўлі, і пасажыры, што прыязджаюць з Мінска ў 16.30, могуць карыстацца ім.

### Новыя расцэнкі на аб'явы, якія змяшчаюцца ў «Кобрынскім весніку».

**У сувязі з ростам цэн на выданне газеты з 1 студзеня 1998 года павышаюцца тарыфы на размяшчэнне аб'яў, рэкламы і іншых паслуг рэдакцыі «Кобрынскага весніка».**

**Рэклама і аб'явы прадпрыемстваў цяпер будуць каштаваць 18000 рублёў за 1 кв. см, спачуванні - 250000 рублёў, падзякі - 150000 рублёў, аб'явы аб згубленых дакументах - 60000 рублёў, аб'явы ад грамадзян і віншаванні - 15000 рублёў за радок у 15 знакаў.**

***Наш разліковы рахунак №3012200560001 у Кобрынскім аддзяленні АПБ г.Кобрына (МФА 406).***

### СВЕДЕНИЯ
*об объекте областной коммунальной собственности, подлежащей разгосударствлению и приватизации*

| | |
|---|---|
| Полное и сокращённое наименование объекта приватизации, его ведомственная принадлежность | Кобринский деревообрабатывающий комбинат «Агропромдрев» Проектно-промышленное производственное объединение г. Бреста ДОК «Агропромдрев» ППСО «Брестоблагропромстрой» |
| Адрес | г. Кобрин, пер. Островлянский, д. 8 |
| Вид деятельности объекта приватизации, укрупнённая номенклатура выпускаемой продукции | Производство строительных конструкций, материалов и товаров на основе древесной переработки лесохимической продукции |
| Планируемые сроки приватизации | IV квартал 1997 года |
| Предполагаемый способ разгосударствления и приватизации | Акционирование |
| Орган, осуществляющий приватизацию данного объекта, и его местонахождение | Комитет «Брестоблимущество» 224006 г. Брест, ул. Ленина, 11 |
| Численность работающих, человек | 48 |
| Сроки предъявления претензий | Месяц со дня опубликования |
| Предполагаемая величина уставного фонда создаваемого ОАО (начальная цена продажи), млн. руб. | 8022 |
| *Стоимость основных фондов, млн. руб.* | |
| Всего | 8295 |
| в т. ч. по группам: | |
| зданий и сооружений | 6921 |
| машин и оборудования | 1374 |
| непроизводственных фондов | |
| Площадь земельного участка, занимаемого объектом, га | 2,4692 |
| *Финансовое состояние объекта, млн. руб.* | |
| Балансовая прибыль | 51 |
| Кредиторская задолженность | 273 |
| Дебиторская задолженность | 8 |



*Сустрэча каманд «Алімп» (Кобрын) і «Тэхнапрыбор» (Магілёў) у рамках чэмпіянату Беларусі па валейболу сярод каманд вышэйшай лігі ў першы дзень не выклікала вялікіх хваляванняў. Як кажуць, мяч быў на баку кабрынчан. І лік 3:0 на нашу карысць сведчыць аб тым-жа!*

*А вось на наступны дзень, а гэта была нядзеля, гульня прымусіла пахваляваацца ўсіх. Праіграўшы другую партыю, кабрынчане праявілі і спартыўную вытрымку, і спартыўнае майстэрства, здолелі пераламаць ход сустрэчы. У рэшце рэшт, хоць і з вялікай цяжкасцю, але перамаглі ў трэцяй партыі. У чацвёртай жа сапернік быў, як кажуць, разбіты поўнасцю. Лік другой сустрэчы - 3:1 на карысць кабрынчан. Няхай жа гэтыя першыя два ачкі ў скарбонцы кобрынскага «Алімпа» дапамогуць адчуць асалоду перамогі і падтрымаюць каманду ў не вельмі лёгкі для яе перыяд. Наперадзе ў нашых валейбалістаў - сустрэчы з моцнымі сапернікамі. 10-11 студзеня «Алім» выязджае на сустрэчу з мінскім «Падшыпнікам», а ўжо 17 студзеня ў зале ДЮСШ балельшчыкаў чакае гульня кобрынскага «Алімпа» з камандай «Крок» са Жлобіна.*

*НА ЗДЫМКУ: момант гульні.*
*Тэкст і фота А. ШУГАЯ.*



## ❑ЗА ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

*44 чалавекі прынялі ўдзел у святочных турнірах па шахматах і шашках, якія правёў Народны шахматны клуб гарадскога Дома культуры 25 снежня. Вось імёны прызёраў у парадку занятых месцаў:*

*у бліцтурніры - Мікалай Лагвіновіч, Валянцін Гурын, Аляксандр Краўчук; у хуткіх шахматах - Анатоль Чакуноў, Міхаіл Глухой, Ірына Кірык, Улада Дырда; у шашках - Сяргей Місюта, Валерый Дзідкоўскі, Аляксей Ковыш.*

*Добрыя вынікі паказалі Алена Стоцкая, Юлія Валасюк, Наташа Місюта. Падобныя масавыя спаборніцтвы адбудуцца 4 і 11 студзеня.*

*Т. САПЕГА,*
*кіраўнік Народнага шахматнага клуба.*



## Апошнія дасягненні на фінішы мінулага года

Напярэдадні Новага года спартыўная арганізацыя раёна папоўнілася яшчэ адным майстрам спорту Рэспублікі Беларусь. Ганаровае званне Міністэрства спорту рэспублікі прысвоіла Наталлі Гутнік.

Да поспеху Наталля ішла доўга, з адзінаццаці гадоў. І вяршыня пакарылася ёй на коннаспартыўнай базе калгаса імя Чкалава, у відзе спорту, цяжкім нават для мужчын. Выступаючы ў розыгрышы Кубка Федэрацыі коннага спорту і Аб'яднання па конегадоўлі рэспублікі, яна заняла першае месца, паказаўшы лепшы вынік і не маючы штрафных ачкоў у пераадольванні перашкод.

Віншуем з ганаровым званнем. Здароўя, шчасця, спартыўных поспехаў у новым годзе!

❑❑❑

1997-ы спартыўны год завяршыўся фінальнымі спаборніцтвамі III-й раённай спартакіяды работнікаў адукацыі.

30 калектываў школ, за выключэннем Пескаўскай, Лелікаўскай, Кісялевіцкай і Шамятоўскай, у два этапы спаборнічалі па валейболу, настольнаму тэнісу, шашках, турызму.

Па валейболу ў фінале сустрэліся каманды Дзівінскай і Арэхаўскай СШ. Перамогу атрымалі педагогі з Дзівіна. У спаборніцтвах па настольнаму тэнісу першай была каманда Астроміцкай СШ, па шашках - настаўнікі Верхалескай СШ, турызму - Астроміцкай.

Першае агульнакаманднае месца заняў калектыў Астроміцкай школы, другое - Дзівінскай, трэцяе - Верхалескай.

*А. БРОДКА,*
*старшыня райспорткамітэта.*

## Полезные советы

❑Расчёски и щётки для волос хорошо моются, если опустить их на несколько минут в посуду с водой, смешанной с нашатырным спиртом (4 части воды и 1 часть спирта), после чего подержать под струёй воды и насухо вытереть. Можно также опустить щётки в водный раствор питьевой соды.

❑Чтобы почистить зубные щётки, их надо опустить на несколько минут в стакан с холодной водой, в которую добавлено немного нашатырного спирта.

## На заметку гаспадыні

### ЯЗЫК В ТЕСТЕ

Язык промыть и варить до готовности. Затем переложить его в холодную воду, очистить от кожи и нарезать в виде кружочков. В муку добавить соль, яйца, молоко и размешать, чтобы не было комков. В тесто опускать кусочки языка и жарить во фритюре.

*500 г говяжьего языка, 0,75 стакана муки, 2 яйца, 0,5 стакана молока, 3 ст. ложки топленого масла, соль.*

### ЖАРЕНКА

Нарезать говядину небольшими кусками, морковь - ломтиками, а сырой картофель и лук - кубиками. Всё отдельно обжарить. Грибы отварить, мелко изрубить и поджарить, отдельно спассеровать муку до светло-коричневого цвета. Подготовленные продукты положить в жаровню, залить доверху грибным бульоном, добавить сметану, посолить и тушить. При подаче на стол посыпать зеленью.

*300 г говядины, 6 картофелин, 40 г сушеных грибов, 1 ст. ложка масла, 1 луковица, 1 морковь, 2 ст. ложки сметаны, 1 ч. ложка муки, 40 г шпика, зелень, соль.*

Адміністрацыя гарадскога Дома культуры, калектыў работнікаў выказваюць глыбокае спачуванне работніцы ГДК Трацэвіч Ганне Паўлаўне з выпадку напаткаўшага яе гора - смерці ***маці.***

Калектыў Кобрынскага раённага аддзела статыстыкі смуткуе з выпадку смерці былога эканаміста ***БОНДАРАВАЙ Валянціны Савельеўны*** і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыцы.

У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «КОБРЫНСКІ ВЕСНІК»

Ад усяго сэрца дзякуем праўленню калгаса «Зара», асабіста старшыні калгаса Тарасюку Івану Іванавічу, работнікам Хідрынскай амбулаторыі, усім механізатарам, паляводам, суседзям, блізкім, знаёмым, якія падзялілі з намі цяжкую страту і аказалі маральную і матэрыяльную дапамогу ў арганізацыі пахавання нашага дарагога, любімага ***БАРЫСЮКА Аляксандра Максімавіча.*** Нізкі вам паклон.

***Родзічы нябожчыка.***

Паважаныя Ківака Віктар Сямёнавіч і Гарбачова Марыя Рыгораўна!

Няхай наша шчырае спачуванне аблегчыць ваш боль і смутак з выпадку напаткаўшага вас гора - смерці ***маці і свекрыві.***

***Педкалектыў Стрыгаўскай СШ.***

Калектыў філіяла N 113 ААБ «Беларусбанк» выказвае глыбокае спачуванне Кавальчук Ніне Андрэеўне з выпадку напаткаўшага яе гора - смерці ***бацькі.***

## ❑З РЫБАЦКАГА ГУМАРУ

### ВОТ ЭТО СОМ!

Приехали как-то летом рыбаки на Белоозёрский канал на ночной лов сома.

С вечера сели поужинать, слегка " приняли на грудь". Забросили спиннинги-донки. На крючки надели наживку - куриную печёнку. И ждут поклёвки.

Всё бы ничего, но один из рыбаков, забрасывая в темноту спиннинг, не подрассчитал. Наживка с грузилом упала не в воду, а на противоположный берег канала. А там бегала бродячая собака...

И вот тишину ночи нарушила трещотка спиннинга. Рыбак молнией вскочил, подсёк и почувствовал на другом конце лески приличное сопротивление. Видать, солидный сом попался. Тут добрая сноровка нужна, а то сорвётся.

Рыбака окружили товарищи, и каждый старался помочь советом.

- Тяжело, сопротивляется, - стонал удачливый рыбак. - О, кажется, легче пошёл. Подсачек давай!

Все внимательно вглядывались в прибрежную полосу воды, откуда вот-вот должна появиться огромная рыбина. Вдруг из воды вынырнуло какое-то чудовище с раскрытой клыкатой пастью. В доли секунды рыбаков с берега как ветром сдуло. А собака отряхнулась от воды и рванула в противоположную сторону. Потом рыбаки рассказывали, что в канале водится какое-то чудовище, но им мало кто верил.

### ХИТРЫЙ ЧЕРВЯК

Поехал мой сосед на рыбалку. Вернулся вечером и рассказал мне свою историю:

"На моём излюбленном месте никого не было. Я забросил удочку, стал ждать. Вдруг поплавок потихоньку начал подпрыгивать. Подсёк, но пусто, на крючке только ворочался внушительный червяк. И так множество раз.

Наконец я не выдержал. Разделся, взял маску и нырнул под воду, чтобы посмотреть, что же там происходит. Вижу, сидит мой червяк на крючке и дремлет. Смотрю, на него обратил внимание окунь, подплыл поближе. И, когда расстояние между ним и червяком сократилось до опасного предела, последний вдруг забеспокоился, закрутился. Потом давай дёргать за леску и кричать: «Эй, хозяин!». Это чтобы я его вытащил и тем самым спас от окуня. Вот тебе и секрет пустых поклёвок."

*Рыбацкие истории*
*записал А. САЦУК.*

Рэдактар
А. В. АСТАПОВІЧ.


"КОБРИНСКИЙ ВЕСТНИК" - издаётся на белорусском языке с публикацией части материалов на русском.
УЧРЕДИТЕЛИ: Кобринские городской и районный Советы депутатов
Кобринские городской и районный исполнительные комитеты
Трудовой коллектив редакции
*Рэгістрацыйны № 677*

НАШ АДРАС: 225860, г.Кобрын, вул. Савецкая, 14
ТЭЛЕФОНЫ: рэдактара - 2-12-63, адказнага сакратара - 2-23-46, карэспандэнтаў - 2-26-46, 2-32-56, 2-24-03, радыёвяшчання - 2-26-46, фотакарэспандэнта - 2-22-63, бухгалтэрыі - 2-25-38

Газета набрана і звярстана на камп'ютэрнай настольна-выдавецкай сістэме.
Друкуецца афсетным спосабам у Брэсцкай абласной друкарні ўпраўлення па друку Брэсцкага аблвыканкома
(224637, г.Брэст-30, вул. Маскоўская, 75)

Наступны нумар газеты выйдзе ў суботу, 10 студзеня

Аб'ём - адзін друкаваны аркуш
Нумар падпісаны да друку ў 12.00
Індэкс 63945
Заказ 19 Тыраж 8770